**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№26(690)**
**27 чэрвеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Купанне коняў на возеры Вялікі Супонец.** Працяг тэмы на стар.5 *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Да ўвагі нашых чытачоў!** У сувязі са святаточным днём 3 ліпеня і выхадным днём у друкарні, наступны нумар «ВГ» паступіць у продаж увечары 4 ліпеня.

**Аршанскі раён**

# З чарговай спробы

■ **Станіслаў Раманчук**

**Ранейшая айчынная мадэль эканамічнага развіцця паступова вычарпала сябе, і таму ў краіне заняліся паўсюдна мадэрнізацыяй дзяржаўных прадпрыемстваў.**

Яшчэ некалькі гадоў назад пасля рэгулярных візітаў кіраўніка дзяржавы ў Оршу распрацавалі праграму развіцця льнаводчай галіны, згодна з якой у 2011 годзе на базе мясцовага льнокамбіната павінен быў запрацаваць льняны холдынг. У буйнейшы ў Еўропе камбінат меркавалася тады ўключыць 22 льнозаводы з інстытутам лёну, банкам і шэрагам сумежных прадпрыемстваў. Пазней Оршу разглядалі галаўной арганізацыяй ствараемага холдынгу ўжо сёлета. Аднак аб новай структуры дагэтуль ідуць болей размовы і цяпер загаварылі аб стварэнні ўжо буйнога беларуска-расійскага льнянога холдынгу. Праўда, на працягу апошніх 7 гадоў на самім камбінаце вядуць тэхпераўзбраенне пяці яго фабрык без адрыву ад вытворчасці з заменай састарэлага абсталявання. Сёлета на фабрыцы №3 павінны завяршыць рэканструкцыю за 35 млн. еўра цэха перапрацоўкі доўгага валакна і вытворчасці з яго тканін. Аднак у асноўных партнёраў гіганта - дзеючых 45 беларускіх льнозаводаў сітуацыя не такая спрыяльная, бо палова абсталявання ў іх поўнасцю зношана. Толькі праз 3 гады ўдасца мадэрнізаваць 17 заводаў, а яшчэ 15 прадпрыемстваў галіны ў глыбінцы будуць ліквідаваны. Атрымоўваць тканіны з лёну сусветнай якасці цяжка, бо многія калгасы развучыліся вырошчваць гэту працаёмкую культуру.

**Пастаўскі раён**

# Яшчэ адзін манумент

■ **Кастусь Александровіч**

**Сярод паўсотні розных фестываляў, якія праводзяцца штогод у Беларусі, па ацэнках спецыялістаў, у пяцёрку лепшых і самых адметных уваходзіць старэйшы Міжнародны фестываль народнай музыкі ў Паставах.**

Музычнае свята талентаў у гэтым горадзе нядаўна прайшло ў 20-ты раз, з якіх 16 – у рангу міжнароднага. Яго праграма пастаянна абнаўляецца, і вось ужо два гады яе дапаўняе творчы плэнер маладых творцаў кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў Беларусі.. Летась яны падаравалі райцэнтру тры свае помнікі з каменю. Адным з заключных акордаў сёлетняга фестывалю стала адкрыццё ў гарпарку памятнага манумента, прысвечанага 20-годдзю свята народных мастацтваў на Пастаўшчыне. З падабранага тут трохметровага каменя-валуна трое пяцікурснікаў пад кіраўніцтвам дацэнта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Аляксандра Фінскага вырабілі прыгожую кампазіцыю з лірай наверсе – ключавога сімвала эмблемы фестывалю. Маладых творцаў Аляксандра Сакалова, Васіля Пірагова і Паліну Пірагову ўсім неабходным для працы забяспечыла прыватная фірма "ПостКамень". За кароткі тэрмін пачынаючыя скульптары вырабілі прыгожы манумент, які дапоўнілі, нібыта прамяні сонца, выявы мясцовых славутасцей: Палаца Тызенгаўзаў, абодвух хрысціянскіх храмаў і дамоў XVIII стагоддзя італьянскага архітэктара Саккі , шэраг з якіх захаваліся ў цэнтры горада.

Як заявілі мінчане, яны прадоўжаць падобнае творчае супрацоўніцтва з пастаўчанамі і ў наступным годзе.

**Гарадоцкі раён**

# Дом без адрасу

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Як і чакалася, будаўнічы комплекс краіны сутыкнуўся з падзеннем аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва і самая складаная сітуацыя назіраецца ў Віцебскай вобласці.** Ужо зараз відавочна, што правалілі такую гадавую праграму Гарадоцкі раён. Па плане ў гэтым райцэнтры спадзяваліся пабудаваць два 40-кватэрныя жылыя дамы і забяспечылі фінансаванне гэтых работ. Аднак удалося пачаць толькі ўзвядзенне адной шматпавярхоўкі, бо на другі дом не сабралі патрэбную колькасць забудоўшчыкаў. Пры гэтым, што самае сумнае, жыллёвая чарга ў Гарадку немаленькая і дасягае некалькі соцень чалавек. Аднак даходы ў мясцовых жыхароў мізэрныя і людзі справядліва баяцца, што не змогуць пагашаць банкаўскія крэдыты, калі кошт кв. метра жылплошчы з дзяржпадтрымкай перавысіў 6 млн. рублёў. У шэрагу раёнаў вобласці з малой колькасцю насельніцтва сёлета навогул не пачыналі будаўніцтва шматкватэрных жылых дамоў. Каб актывізаваць жыллёвае будаўніцтва, Віцебскі аблвыканкам давёў заданне кожнай гаспадарцы за кошт уласных сродкаў пабудаваць у глыбінцы па 3 катэджы. Аднак гаротнае фінансавае становішча многіх калгасаў робіць такую задачу невырашальнай. Жыццёвы ўзровень беларусаў, асабліва ў правінцыі, нізкі, і таму нават у такіх буйнейшых райцэнтрах, як Паставы, Глыбокае, Лепель, Браслаў, цяпер практычна няма жадаючых весці будаўніцтва жылля за кошт уласных сродкаў насельніцтва.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 27.06.13 | | | | Пятніца 28.06.13 | | | | Субота 29.07.13 | | | | Нядзеля 30.06.13 | | | | Пнд.01.07.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +17 | +19 | +22 | +20 | +13 | +19 | +22 | +21 | +15 | +18 | +23 | +22 | +16 | +17 | +20 | +18 | +13 | +15 | +20 |
| Ціск | 748 | 749 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 | 749 | 747 | 745 | 741 | 738 | 737 | 737 | 738 | 739 | 740 | 740 | 740 |
| Вільготнасць | 96 | 68 | 57 | 62 | 96 | 73 | 61 | 66 | 95 | 89 | 71 | 76 | 100 | 87 | 72 | 69 | 92 | 76 | 66 |
| Вецер м/сек | 4 З | 3 З | 4 З | 3 З | 3 З | 3 Пн | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 3 Пн | 3 Пн | 6 Пн-У | 4 У | 3 Пд | 4 Пд-З | 6 З | 6 Пн-З | 6 Пн-З | 5 З | 6 Пн-З |

# Аб самым надзённым

## "БАРДАК НА БУДОЎЛЯХ" СПАДЗЯЮЦЦА СПЫНІЦЬ ШЛЯХАМ СТВАРЭННЯ БУЙНЫХ ХОЛДЫНГАЎ І ЗАКРУЧВАННЯ ГАЕК

■ **Аляксандр Цішкевіч**

**Не прывыклі ў Беларусі да стварэння сучасных карпарацый на добраахвотнай аснове, у нас па-ранейшаму стаўка на адміністрацыйна-каманднае ўпраўленне. Адсюль і ўзнікаюць усе праблемы ў розных сферах.**

Апошнім часам у Беларусі акрамя шматпакутнага АПК ніводнай галіне эканомікі не ўдзяляецца столькі ўвагі на дзяржаўным узроўні, як будаўніцтву. Вось і ў пачатку лета беларускі лідар правёў чарговую буйную нараду па пытаннях жыллёвага будаўніцтва, як паведамілі айчынныя СМІ. Аднак калі раней такія разгорнутыя пасяджэнні праводзіліся ў нас з перыядычнасцю раз на паўгода, то з моманту апошняй такой нарады па гэтаму актуальнаму пытанню (па словах прэзідэнта, скаргаў больш чым дастаткова) прайшло толькі 3 месяцы.

Ды і столькі жорсткай непрыемнай крытыкі ў адрас чыноўнікаў Мінбудархітэктуры РБ і кіраўнікоў будаўнічага комплекса з вуснаў кіраўніка дзяржавы раней публічна не гучала. Перад апошняй нарадай правялі спецыяльны маніторынг сітуацыі на будаўнічых аб'ектах і высветлілася, што жыллёвае будаўніцтва – самая карумпаваная сфера. Характэрна, што на пасяджэнні ў сталіцы прама было сказана, што заданні па ўзвядзенню жылля, хутчэй усяго, будуць правалены ў нашай Віцебскай вобласці.

Прэзідэнт адразу адверг апраўданні кіраўніцтва будкомплекса на недахоп працоўных рук і спецыялістаў на будоўлях. Пытанняў, дзе браць муляраў і тынкоўшчыкаў, не будзе на нармальна і прадукцыйна ўзводзімых аб'ектах, як заявіў А. Лукашэнка. Там не працуюць гультаі і няма на трох работнікаў –двух начальнікаў. Па сутнасці быццам і правільна, але кіраўнік дзяржавы настолькі ўстрывожаны сітуацыяй, што праз тыдзень даручыў МУС Беларусі ў складзе міжведамаснай групы прааналізаваць дадаткова сітуацыю ў будаўніцтве і ў прамысловасці.

З беларускай індустрыяй сёлета адбываюцца пагрозлівыя рэчы, нашы заводы і фабрыкі сталі працаваць на склад, гатовая прадукцыя не прадаецца і яе запасы набліжаюцца да 35 трлн. рублёў. А тут яшчэ аказалася, што цэны на раннія свежыя агуркі і памідоры ў Беларусі на 44-47 % вышэйшыя, чым у суседніх Украіне і Польшчы. Як на грэх, сёлета патокам ідуць адны непрыемныя паведамленні. Вось і расійскія пасол падліў масла ў агонь і заявіў, што Крэмль не будзе даваць крэдыты (прасілі 2 млрд. долараў) на мадэрнізацыю беларускіх прадпрыемстваў. Расія гатова фінансаваць абнаўленне толькі сумесных расійска-беларускіх вытворчасцей, а не сваіх прамых канкурэнтаў і гэта зразумела.

Праўда, сярод мноства праблем прыйшла і абнадзейваючая навіна. Наш галоўны гандлёвы партнёр і саюзнік Расія вырашыла перагледзець планы будаўніцтва і нават замарозіць узвядзенне сваёй Балтыйскай АЭС і нават можа перакінуць у Беларусь частку спецыялістаў і абсталяванне, якое першапачаткова прызначалася для атамнай станцыі ў Калінінградскай вобласці. Гэтай вобласці проста непатрэбна столькі электраэнергіі (2,3 Гвт ад двух блокаў), колькі стане вырабляць новая расійская АЭС. Літоўцам, палякам, немцам таксама яна не патрэбна і "Расатам" вырашыў на гэтай пляцоўцы паставіць рэактары меншай магутнасці.

У такім выпадку пры спрыяльным развіцці падзей, пуск першага энергаблока Беларускай АЭС ля Астраўца можа адбыцца не ў 2018 годзе, а яшчэ раней. Аднак гэта – яшчэ далёкія перспектывы, а на самой пляцоўцы там пасля заканчэння падрыхтоўчага этапа будаўніцтва атамнай станцыі сёлета пачнецца ў сярэдзіне лета. У нас жа цяпер вырашылі стварыць для працы на сваім і знешніх рынках 2-3 буйныя будаўнічыя беларускія холдынгі, як было заяўлена па выніках нарады ў Мінску. Ідэя на першы погляд – нядрэнная.

Адзінае, што ў гэту новую дзяржструктуру па айчыннай завядзёнцы могуць зганяць і яўных лідараў, паспяхова працуючыя бударганізацыі і будфірмы-банкроты. Не прывыклі ў Беларусі да стварэння сучасных карпарацый на добраахвотнай аснове, у нас па-ранейшаму стаўка на адміністрацыйна-каманднае ўпраўленне. Адсюль і ўзнікаюць усе праблемы ў розных сферах. І верагодна, не ад добрага жыцця зусім хутка будуць скарочаны 20,5 тысяч дзяржчыноўнікаў (нават прэзідэнцкая Адміністрацыя – на 25 %, аблвыканкамы – на трэць, райвыканкамы – прыкладна на 17 %).

А вось тым, каго пакінуць на дзяржслужбе, зараз даручылі кантраляваць правядзенне культурна-забаўляльных мерапрыемстваў, на што злыя языкі заявілі, што фактычна адноўлена цэнзура. Аднак з чым можна ўсім беларусам пагадзіцца, сённяшні наш ўзровень будаўніцтва (і не толькі ён) – абсалютна недапушчальны. Іншае справа, што слаба верыцца на паляпшэнне сітуацыі нават і пасля новых такіх фундаментальных нарад…

## Дзень за днём

**Еўразійскі банк развіцця СНД папярэдзіў Беларусь, што інфляцыя сёлета можа вырасці да 30 %, а яе эканоміку чакае чарговы крызіс. Рост складскіх запасаў у Беларусі наблізіўся да ўзроўню крызіснага 2009 года, яны выраслі з пачатку года болей, чым на чвэрць. Экспарт беларускай тэхнікі скараціўся сёлета на сотні млн. долараў, золатавалютныя рэзервы РБ у маі – на 229 млн. $. Зарплатай больш 5 млн. рублёў у месяц можа пахваліцца толькі кожны трэці працуючы беларус. У школах краіны могуць увесці залікі па асновах бяспекі жыццядзейнасці. З восені пачнуць прызываць на службу адразу па кантракце прызыўнікоў з вышэйшай адукацыяй.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Грамадзянская вайна, па дадзеных ААН, усё болей пераходзіць тут у бойню варвараў, хімічную зброю ўжылі абодва бакі канфлікту, нормай сталі масавыя забойствы.

**Японія.** На шматпакутнай, пашкоджанай вясной 2011 года землятрусам і цунамі АЭС "Фукусіма-1" зафіксавалі новую ўцечку радыяцыі з рэзервуара астуджэння рэактараў.

**Венесуэла.** Улады другога па колькасці насельніцтва штата Сулія ўвялі карткі не толькі на прадукты харчавання, але і на мыла, зубную пасту, туалетную паперу, падгузнікі.

**Латвія.** Еўракамісія пацвердзіла далучэнне краіны да зоны абарачэння еўра з 2014 года, у канцы ліпеня будзе зацверджаны на саміце ЕС курс абмену латвійскіх латаў на еўра.

**Швейцарыя.** Вядомы палітычны дзеяч, чэмпіён свету па шахматах Гары Каспараў вырашыў не вяртацца ў Расію, бо баіцца пераследу крамлёўскіх улад за ўдзел у палітыцы.

**Сірыя.** Лідары ўзброенай апазіцыі выставілі Расіі ўльтыматум спыніць падтрымку зброяй рэжыма Б. Асада і нават абстралялі тэрыторыю расійскага пасольства ў Дамаску.

**Украіна.** У штогадовым пасланні парламенту прэзідэнт В. Януковіч зноў прапанаваў пабудаваць газаправод "Белы паток" з Туркменіі і Казахстана ў абыход Расіі па дне мора.

**Расія.** На 8 верасня прызначылі датэрміновыя выбары мэра Масквы, глава сталіцы Сяргей Сабянін мог правіць яшчэ 2 гады, аднак пайшоў на перавыбары і мае найлепшыя шанцы.

**Азербайджан.** Правячая партыя "Новы Азербайджан" вылучыла Ільхама Аліева на трэці прэзідэнцкі тэрмін, ён кіруе краінай пасля свайго бацькі з 2003 года, выбары прызначаны на восень.

**Кітай.** У выніку пажару і панікі рана раніцай на птушкафабрыцы ў правінцыі Цзілінь загінулі 119 чалавек, дзясяткі работнікаў атрымалі траўмы і раненні, але выратаваліся.

**ЗША**. Пажылая 84-гадовая жыхарка штата Фларыда Глорыя Макензі выйграла ў латарэю 590 мільёнаў долараў, яна выпадкова купіла латарэйны білет за 2 долары ў супермаркеце.

**Швецыя.** Паліцыя прызнала невінаватай прыбіральшчыцу і спыніла крымінальную справу за ўгон прыгараднага цягніка, бо яна выпадкова націснула на кнопку падчас уборкі кабіны

**Швейцарыя.** Па дадзеных даследванняў, больш за ўсіх задаволены сваім жыццём і самыя шчаслівыя ў Еўропе швейцарцы, у пяцёрцы лепшых Нарвегія, Ісландыя, Швецыя, Данія.

**ЗША.** Кампанія Microsoft прадставіла навінку – гульнявую прыстаўку новага пакалення Xbox One , цэлы мульцімедыйны цэнтр з кіраваннем голасам і працы з ТБ і Інтэрнетам.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін з жонкай Людмілай пацвердзілі, як і чакалася, чуткі аб тым, што разводзяцца, у шлюбе яны пражылі разам 30 гадоў, іх дзве дарослыя дочкі выраслі.

# Усе бальніцы Віцебскай вобласці аб'яднае цэнтральная кампутарная сетка



■ **Анастасія БУТ, «Віцебскі рабочы»**

**Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкама Юрый Дзяркач.**

- Мы практычна завяршылі інфарматызацыю галіны згодна з падпраграмай «Здароўе». Сёння ўжо 7 раёнаў падлучаныя да цэнтральнага сервера, які знаходзіцца ў Віцебскім абласным дыягнастычным цэнтры. Да верасня ўся сістэма пачне працаваць у тэставым рэжыме. Праведзена вялікая падрыхтоўчая праца: набылі тэхніку, прапрацавалі праграмы, адаптаваўшы іх да ўжо наяўных, навучылі кадры.

Што гэта дасць? Дактарам - поўны доступ да інфармацыі аб кожным пацыенце. Напрыклад, лекар хуткай дапамогі, выязджаючы на выклік, можа даведацца: што за хворы, дзе лячыўся, якая ў яго паталогія. А калі раптам адбываецца няшчасны выпадак, не трэба будзе марнаваць каштоўны час на працяглую дыягностыку. Пагляздзелі ў базу: адразу ясна, якія маюцца паталогіі, рызыкі і якое лячэнне трэба прызначыць.

Сістэма цалкам выключыць дубліраванне працэдур і не дазволіць здзяйсняць супрацьпраўныя дзеянні. Яна вельмі важная ў прафілактыцы карупцыйных правапарушэнняў. Напрыклад, падчас прызыву ў войска будзе зведзена да мінімуму з'яўленне праблемных пытанняў. Бо з ніадкуль паталогія ў прызыўніка з'явіцца не можа.

Інфарматызацыя дасць магчымасць таксама праводзіць аналітыку: якое лячэнне прызначаецца, як выконваецца. З'явіцца сувязь з аптэчным кіёскам, бо паступова лекі пераходзяць на рэцэптарны адпачынак. Па крайняй меры, тыя, якія патрэбныя для лячэння сур'ёзных захворванняў. Чалавек прыходзіць у аптэку, называе свой нумар, у кампутары ў фармацэўта высвечваюцца назвы прэпаратаў, якія яму прызначыў доктар. У выніку без праблем можна прааналізаваць, ці набываў лекі або хворы проста знаходзіўся на лістку часовай непрацаздольнасці. А раптам пацыент не лячыўся? Ён не выконвае прадпісанні доктара, то якія прэтэнзіі да медыкаў?

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На праграму адраджэння вёскі, як паведаміў першы віцэ-прэм'ер РБ У. Сямашка, патрацілі 42 млрд. $ замест 35 запланаваных, новая праграма абыдзецца краіне 25 млрд. $.

**Магілёў.** У дзень васелля ў прыгарадным пасёлку Вейна 22-гадовая нявеста вечарам на глебе рэўнасці на мужа выкінулася вечарам з балкона 5-га паверха дома і загінула.

**Мінск.** Расійскі пасол А. Сурыкаў пацвердзіў, што Крэмль не будзе крэдытаваць мадэрнізацыю беларускіх прадпрыемстваў, дасць грошы толькі на сумесныя праекты.

**Шклоў.** У суд паступіла крымінальная справа ўрача райбальніцы па абвінавачваннях у атрыманні 16 разоў хабару і за выдачу за грошы фіктыўных бальнічных лісткоў.

**Гродна.** Супраць дырэктара ААТ "Гроднарыба" А. Белага распачалі крымінальную справу за службовую халатнасць, урон сваёй фірме, другую па ліку ў біяграфіі гэтага кіраўніка.

**Івацэвічы.** Калектыў Юголінскай школы-інтэрната выступіў супраць яе закрыцця пасля рамонту, 90 яе работнікаў страцяць працу, няма магчымасці знайсці новую ў пасёлку.

**Брэст.** З выставы ў абласным музеі раптам знялі карціну расійскага мастака Н. Сафронава "Лукашэнка ў касцюме Скарыны", і кіраўнік вобласці К. Сумар адвёз яе ў сталіцу.

**Слонім.** Падчас рабавання ноччу старых людзей у вёсцы Забулле не разгубіўся гаспадар дома і з паляўнічага ружжа застрэліў аднаго 24-гадовага раней судзімага мярзотніка.

**Валожын.** Невядомыя злачынцы абрабавалі ноччу паморскую царкву старавераў у вёсцы Масцішча і забралі адтуль 5 найбольш каштоўных абразоў XIX стагоддзя.

**Бабруйск.** У былым будынку рамонтных майстэрань мясцовага "Вадаканала" стварылі незвычайны музей вады з фантанам, экспанаты для якога збіралі тут працяглы час.

**Мінск.** Кіраўніцтва ФК "Дынама" вырашыла датэрмінова скасаваць кантракт, заключаны да канца года з галоўным трэнерам Алегам Пратасавым, вядомым савецкім футбалістам.

**Курапаты.** Ваўрочышчы актывісты КХП-БНФ устанавілі яшчэ 5 памятных каменяў-валуноў з выявамі крыжа Еўфрасінні Полацкай у памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

**Мінск.** Вядомая беларуская біятлоністка Дар'я Домрачава падаравала больш 3 тысяч $ дзіцячаму хірургічнаму цэнтру, а таксама мяккія цацкі і заплечнікі хворым дзеткам.

**Слонім.** Жыхарка райцэнтра, якой споўнілася болей 60 гадоў, заразілася вірусам СНІДа, у раёне назіраецца дзіўная тэндэнцыя выяўлення такіх ВІЧ сярод сталых людзей.

**Мінск.** У межсезонне хакейны клуб "Дынама" акрамя групы моцных ігракоўлегіянераў пакінулі яшчэ 10 вядучых спецыялістаў каманды на чале з гендырэктарам А. Торбіным.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У студзені-маі, як заявіў пракурор вобласці Генадзь Дыско, было зафіксавана 149 карупцыйных злачынстваў, у асноўным – атрыманне хабару рознымі службовымі асобамі.

**Новалукомль.** Упершыню ў мясцовым рыбгасе "Лукомльскі" пры Чашніцкай ПМК-26 атрымалі малькоў бестэра, гібрыда бялугі і сцерлядзі з сямейства асятровых рыб.

**Віцебск.** На рынках абласнога цэнтра прадпрымальнікі правялі папераджальную забастоўку супраць новага тэхрэгламенту Мытнага саюза на тавары лёгкай прамысловасці

**Лепель.** Каля 2-х гадзін ночы на трасе Мінск-Віцебск 22-гадовы мінчанін урэзаўся паблізу вёскі Вярэбкі на Audi-100 у фуру, у выніку ДТЗ загінулі 4 чалавекі, усе жыхары сталіцы.

**Віцебск.** Урад Беларусі вырашыў выратаваць эксфлагман галіны стратнае ААТ "КІМ" і з вялізнымі даўгамі далучыць яго да новага холдынга на базе жодзінскага "Світанка".

**Глыбокае.** Спякотным вечарам 70-гадовы пенсіянер пайшоў на вадаём пакупацца, але не разлічыў свае сілы і патануў, за адзін тыдзень у вобласці ў вадзе ўтапілася 8 чалавек.

**Паставы.** Мясцовы духавы аркестр атрымаў Гран-пры пераможцы нацыянальнага конкурсу-фестывалю духавых калектываў, яго кіраўнік Леанід Косаў - спецыяльны медаль.

**Сянно.** У рамках дабрачыннай акцыі "Асаблівы дзень" для выхаванцаў мясцовай школы-інтэрната арганізавалі экскурсію па музеях Віцебска. Акрамя іх выхаванцы наведалі акадэмію ветэрынарнай медыцыны.

**Браслаў.** На месце былога балота паблізу гарадскога пляжа пачалі ўзводзіць дадатковую аўтамабільную стаянку на 50 месц, з іх 5 месц – для аўтобусаў, у планах стварыць тут музей прыроды

**Наваполацк.** У новым 8-м мікраранёе да 55-годдзя горада прыватная фірма адкрыла яшчэ адзін буйны гандлёвы цэнтр, да канца года з'явіцца крама плошчай 13,5 тысяч квадратных метраў.

**Докшыцы.** У Бярэзінскі біясферны запаведнік і іншыя куткі вобласці Міністэрства прыроды Беларусі думае перасяліць частку папуляцыі баброў з Палесся, дзе іх вельмі шмат распладзілася.

**Віцебск.** Вядомы баксёр віцяблянін Віктар Зуеў заваяваў бронзавы медаль на чэмпіянаце Еўропы ў Мінску, на ім яшчэ два беларусы выйгралі "бронзу", а В. Сафар'янц - "серабро".

**Лепель.** Выпускніка мясцовай СШ №3 і фізічнага факультэта БДУ, маладога вучонага Сяргея Януша зноў запрасілі на стажыроўку на андронным калайдары ў Швейцарыі.

**Докшыцы.** Вечарам моцны лівень з навальніцай у райцэнтры і ваколіцах змяніўся градам, градзіны памерам з вішню і перапаляных яек пабілі людскія агароды, лісце на дрэвах.

**Віцебск.** Жыхароў абласнога цэнтра і гасцей горада парадавалі яркія прадстаўленні знакамітага летняга цырка-шапіто з Масквы "Легендарны цырк Юрыя Нікуліна".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **Ксёндз Аляксей Юркайць,** *адміністратар парафіі Мосар.*

### Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк у Мосары:

# Бог нас яднае!

**Мосарская парафія святкавала старадаўні Адпуст св. Яна Хрысціцеля.**

**Падчас парафіяльнага Адпуста святога Яна Хрысціцеля 22-23 і 24 чэрвеня, натоўпы пабожных людзей сабраліся ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўе, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і благаслаўленне, аб якіх прыходзілі прасіць святога Юстына і святога Яна Хрысціцеля — мучанікаў.**

Святкаванне парафіяльнага свята ў Мосары, устаноўленага Апостальскай Сталіцай і Святым Айцом Піем X парафіяльнага Адпуста ў 1908 годзе, ва ўрачыстасць святога Яна Хрысціцеля ў гэтым годзе было вельмі ўрачыстым.

Айцец Тамаш Міка, манах ордэна дамініканаў з Віцебска, на працягу двух дзён святкавання служыў у канфесіянале і прамаўляў прыгожыя навукі для вернікаў. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел: ксёндз Ян Крэміс з Мінска, ксёндз Пётр Пятрага з Касцяневічаў і айцец Вальдэмар Куява, францішканін з Удзела.

Вернікі адчулі яскравае сведчанне прыгажосці і ўзнёсласці хрысціянскай Літургіі ва ўсходнім абрадзе, падчас Акафісту да святога Яна Хрысціцеля, які праводзілі айцец Дзмітрый і айцец Аляксандр, якія ўдзельнічалі ва ўрачыстасці разам з хорам Уніяцкай царквы з г. Віцебска і г. Полацка.

Падчас святкавання адбывалася Ружанцовая малітва за сем'і, моладзь і дзяцей каля Мосарскіх капліцаў, малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры і літанія да святога Юстына. А ўвечары, дзякуючы дапамозе раённай улады, госці свята прынялі ўдзел у святкаванні "Купалля" – народнага гуляння.



**Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, які стаяў у вытокаў адраджэння святыняў Глыбоччыны.**

Урачыстую Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, які стаяў у вытокаў адраджэння святыняў Глыбоччыны. Шмат радасці адчулі вернікі, вітаючы на свяце "свайго" пастыра, які калісьці, у тыя яшчэ камуністычныя часы напрыканцы 1980-ых, гадоў у Мосары, Удзела, Глыбокім, а таксама ў іншых навакольных касцёлах і капліцах, праводзіў доўгачаканую Святую Імшу, хрысціў, вянчаў… Прайшло ўжо каля 25 гадоў, і ксёндз Уладыслаў Завальнюк наведаў Мосар.



Падчас Святой Літургіі ксёндз Уладыслаў у глыбокім змесце гаміліі ўзрушыў шмат тэмаў: "… У свеце чалавек сутыкаецца са шматлікімі падзеламі, а Бог яднае чалавека ў сям'і, на працы, у грамадстве і між народамі.

Адзіная чалавечая сям'я патрабуе Бога, які нам дае сваё Слова – Езуса Хрыста. І ўсе мы, захоўваючы і развіваючы нашую веру, духоўна ўзрастаем, узбагачаемся, робімся больш шляхетнымі і дасканалымі.

Як марнатраўны сын, так і кожны з нас, без Бога не можа быць шчаслівы. Без Бога няма народу, культуры, адукацыі…

Твар марнатраўнага сына з твору Рэмбранта, гэта твар кожнага чалавека, які ў сваёй істоце без Айца Нябеснага не знаходзіць шчасця ў свеце. Вяртаецца, кленчыць і абдымае Яго калені. А Айцец, яго вельмі любіць, прымае і хоча благаслаўляць!

…Падобна святому Яну Хрысціцелю, які паказаў свету Збаўцу, так і нашыя продкі нам перадалі каштоўны скарб веры. Мы памятаем, дзякуем і молімся за ўсіх, хто нам паказаў Збаўцу!!!

У сучасным свеце кожны з нас, прыняўшы Бога ў сваё сэрца – становіцца сучасным "Янам Хрысціцелем" і паказвае бліжняму шлях да сапраўднага жыцця!"

Напрыканцы Святой Літургіі ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі, падзякаваў усім вернікам з наваколля за шчырую веру і малітву.

Усе прысутныя на свяце былі вельмі ўсцешаны і, ушанаваўшы святыя рэліквіі, як і штогод, адчулі супакой і прынялі Божую ласку, каб праз год зноў прыйсці да святога алтара ў Мосарскім касцёле і ўзнесці малітвы падзякі, праслаўлення і просьбы да Ўсемагутнага і Найвышэйшага Бога праз заступніцтва святых мучанікаў.

Падрабязная інфармацыя на сайце: http://Mosar.vickyblog.com



**Ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар.**



**Шматлюдна на Яна ў Мосары.**

# Жук-насарог з'явіўся ў Мосары

**Той, хто спазнае сапраўдны механізм і прынцып палёту жука-насарога, той зразумее прынцып палёту лятаючай талеркі!**

**24 чэрвеня, ва ўрачыстасць святога Яна Хрысціцеля, вельмі дзіўны жук завітаў у Мосар – жук-насарог!**

Валадарства насякомых (казурак) мае шмат дзіўных і да гэтага часу незразумелых таямніцаў.

Цікавае пытанне: А ці насарог можа лётаць?

Для жукоў-насарогаў характэрна актыўнае перасоўванне з надыходам змяркання, днём яны не актыўныя. Шмат пытанняў пакідае за сабой палёт жука-насорога. Так, многія свяцілы навукі заяўляюць, што паводле законаў фізікі гэты жук ніяк не можа лятаць.

Але ж ён выдатна лётае і без прыпынку можа пераадолець адлегласці больш за 50 км (у ходзе эксперыменту пазначаныя жукі праляталі праз праліў Ла-Манш). Вучоныя вылучаюць разнастайныя гіпотэзы аб прынцыпах палёту гэтага жука, але яшчэ не адна з іх не знайшла падцвярджэнне і не дала адказ на пытанне: «як менавіта лётаюць жукі-насарогі?».



Так, нават Карл Фрыдрых Вайцзэккер, дырэктар Інстытута Макса Планка, сказаў на навуковым кангрэсе: «Што той, хто спазнае сапраўдны механізм і прынцып палёту жука-насарога, той зразумее прынцып палёту лятаючай талеркі!»

Гэтак жа здзівіў жук і тым, што яго надкрыллі пры дзеянні ўльтрафіялетавых праменяў валодаюць паўправадніковымі ўласцівасцямі. Адкрыў гэтую з'яву ў 1954 годзе нямецкі хімік і біяхімік Рыхард Кун (Kuhn) і назваў жукоў-насарогаў мадэллю антыгравітатара.

"Тэрмін жыцця жука-насарога не больш, чым тры месяцы.



# Галаўны боль жыхароў вёскі Кішы – вада!



На пярэднім плане: В. Хоміч, В. Вайтэцкі, В. Стэфановіч.

■ Яўген Самсонаў

**Куды толькі не звярталіся жыхары вёскі Кішы, што ў Глыбоцкім раёне, з вострым пытаннем водазабеспячэння. Ні мясцовая ўлада, ні райвыканкам, ні гаспадарка, якой вяскоўцы аддалі ўсё працоўнае жыццё, амаль на працягу года пакуль не могуць вырашыць гэту праблему.**

**Звярталіся і на "гарачую лінію", але трапілі ў пастку, ледзь пазбеглі адміністрацыйнай адказнасці. Бо, калі прыехала камісія, вада з'явілася. Камісія з'ехала – вада зноў знікла.**

– *Прыедзьце, сфатаграфуйце, а лепш здымiце на відэа і выстаўце ў інтэрнэт нашы пакуты*,– патэлефанавалі аўтару гэтых радкоў, давядзенныя да адчаю кішоўцы,– *па ўсёй вёсцы цякуць ручаіны (нашыя кроўна зароблены грошы), затапліваючы двары і агароды, а ў дамах вады няма. Мы вам пакажам каля васьмі прарываў водаправода, а гаспадары, якія жывуць ля воданапаўляльнай вежы, вымушаныя ў аварыйным парадку адключаць вежу, бо іх затапляе і тады ўся вёска застаецца без вады. Як памыцца, прыйшоўшы з нялёгкай працы? Як скацінку напаіць ды сабе ежу прыгатаваць? Жывем у Год беражлівасці, а гаспадарка, якая сама ў незайдросным эканамічным стане, вымушана выплочваць кампенсацыю за адмокшую гародніну на прыватных участках. Шмат небяспечных мясцін, не толькі для дзяцей, але і дарослых – прамоіны, залітыя вадой ля калонкі, да двух метраў у глыбіню. Ды і ўвогуле трэба чысціць вежу, бо вада ідзе ржавая. Паспрыяла прарывам водаправода колішняе тэхнічна бязграматнае рашэнне наконт прамыўкі водаправоднай сістэмы. Цiск быў такі, што краны не вытрымлівалі, а бруд і іржу зноўкі загналі ў вежу.*

Узброіўшыся фотаапаратам, дыктафонам і відэакамерай, 18 чэрвеня аўтар гэтага матэрыялу завітаў у в. Кішы. Прайшоўся па хатах. Абураюцца сяльчане, асабліва пенсіянеры.

– *Раней хоць нейкую ўвагу і клопат праяўлялі, асабліва М. Пяткевіч*,– узгадвалі добрым словам даўнейшага старшыню калгаса,– *цяпер забыліся нават на існаванне пенсіянераў. Калгаснай канторы няма, клуб закрыты, адна радасць – магазін, і то не факт, што надоўга. Закрыюць! Узамен, два ці тры разы на тыдзень, прапануюць аўталаўку.*

У прызначаны час, а дакладней нават раней, а 18-й гадзіне, на скрыжаванні, ля колішняй калгаснай канторы, сабраўся натоўп людзей. Сярод іх – старшыня Падсвільскага пасялковага савета Валянціна Пальчанка, дэпутат па Кішоўскай выбарчай акрузе Васіль Хоміч, староста вёскі Ганна Курылёнак. Старшыня сельгаспрадпрыемства Віктар Стэфановіч крыху затрымліваўся з прычыны нарады ў гаспадарцы. Прысутныя чакалі, кожны жадаў выказаць набалелае, але ў рамках прыстойнага.

*– Да каго Вы звярталіся з праблемай водазабеспячэння?* – было першае пытанне да прысутных старшыні Віктара Вацлававіча, які прыехаў на гэты сход. На сваёй пасадзе – ён нядаўна і яшчэ не ў курсе ўсіх спраў.

Задаволены адказам на гэта і іншыя пытані сказаў, што не хоча пачынаць сваю працу з падмана. Паабяцаў – трэба зрабіць! Цалкам замяніць водаправод гаспадарка не ў стане, а вось ліквідаваць прарывы – зможа. Толькі патрэбна дапамога – няма экскаватара. Ёсць дамоўленасць з брыгадай сантэхнікаў з Падсвільскага вінзавода і, калі ўлада, у асобе Валянціны Пальчанка дапаможа знайсці экскаватар, то 20 чэрвеня прыступяць да працы, а праз тыдзень, а мабыць трошкі і больш, праблема будзе вырашаная.

На гэтым і пагадзіліся. Карыстаючыся момантам і прысутнасцю старшыні, вырашаліся і іншыя надзённыя пытанні.

Як будуць разгортвацца падзеі далей – пакажа час. Апроч водазабеспячэння на сходзе прагучала яшчэ некалькі значных праблемных пытанняў – «пра рамонт даху ў шматкватэрным 2-павярховым доме, які цячэ», «пра неабходнасць асфальтавання галоўнай вуліцы вёскі» і шэраг бытавых пытанняў.



**«Цячэ вада** (водаправодная) **у ярок!» Адна з васьмі ручаін, якая ўтварылася ў Кішах з-за аварый водапровода.**



З прамовай выступае мясцовы дэпутат Васіль Хоміч.



Старэйшына вёскі Кішы - Ганна Курылёнак.

---

Дарослы жук не спажывае ежы. У жукоў-насарогаў атрафіраваны практычна ўсе органы страўнікавай сістэмы, што можа быць доказам таго, што жукі зусім не харчуюцца, а атрымліваюць энергію для жыццядзейнасці з запасу пажыўных рэчаў, якія скапіў у "дзяцінстве" лічынкай.

А іншыя крыніцы кажуць пра тое, што яны могуць харчавацца разрэджанай ежай ці сокам раслін. У пацверджанне таго, што жукі могуць харчавацца сокам раслін, кажа будынак ротавага апарата – недастатковае развіццё жавальных паверхняў, адсутнасць хітынавых зубцоў для расцірання жорсткай ежы. У той жа час ніжнія сківаці, пакрытыя густымі, доўгімі валасінкамі, якія ўтвараюць шчотачкі, якія, як маркуецца, і збіраюць сок раслін.

Яго мэта ў прыродзе – знайсці сабе пару і запусціць новы жыццёвы цыкл.

Арыентавацца ў прасторы жуку-насарогу дапамагае добра развітая сістэма органаў пачуццяў і рог. Дзіўна пабудаваны рог у жука-насарога. Яго розныя мікрачасткі маюць розны паўправадніковы супраціў, гэта дазваляе разглядаць жука як мікрасхему або чып, створаны самой прыродай. Нават калі ёнударыцца ў чалавека пры палёце, то будзе адчувальны электрычны разрад.

Такі вось дзіўны "госць" – і жук, і насарог – стварэнне Божае!

***Ксёндз Аляксей Юркайць. Фатаздымкі Вольгі Шатыбелка.***

## Конныя вандроўкі па Глыбоччыне і Ушаччыне! Запрашаем!



**Купанне коняў на возеры Вялікі Супонец.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



## У Віцебскай вобласці кіроўца VW, абганяючы трактар, збіў бабулю з унучкай

24 чэрвеня каля 9 гадзін раніцы 24-гадовы вадзіцель Volkswagen Passat на 175-м км дарогі Р-3 Лагойск - Зембін - Глыбокае - мяжа Латвіі паблізу вёскі Сасноўцы Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці, абганяючы на масце спадарожны трактар МТЗ 82 праз суцэльную лінію разметкі, здзейсніў наезд на 79-гадовую жанчыну і яе 4-гадовую ўнучку, якія пераходзілі праезную частку дарогі па масце справа налева па ходзе руху. У выніку ДТЗ бабулі прычынены нязначныя цялесныя пашкоджанні, а дзіця ад атрыманых траўмаў скапала на месцы здарэння, – паведамілі AUTO.TUT.BY у ДАІ МУС РБ.

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Прыехаў на БМВ Х5! Значыць, усё можна?

Глыбоцкі раён – багаты прыгожымі і чыстымі вадаёмамі, штодня на азёрах адпачываюць дзясяткі, а ў выходныя дні - сотні грамадзян, у тым ліку і гасцей. Трэба б цешыцца, што раён наведваюць госці, ды толькі асобных гасцей не хацелася б і бачыць. Прыязджаючы ў госці, шматлікія грамадзяне, асабліва жыхары вялікіх гарадоў, лічаць, што ў сельскай мясцовасці можна рабіць усё, што пажадаеш: лавіць рыбу сеткамі, броднікамі, паляваць без дакументаў, секчы дрэвы, мыць машыны каля вадаёмаў і так далей. Інспектары Глыбоцкай міжрайінспекцыі сутыкаюцца з такімі грамадзянамі штотыдзень, затрымоўваюць, складаюць адміністрацыйныя пратаколы, і практычна заўсёды парушалькі паводзяць сябе вельмі нахабна, дзёрзка, не саромеючыся ў выразах.

22 чэрвеня 2013 года каля 15 гадзін раніцы супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету за незаконную лоўлю рыбы на возеры Сетаўскае Глыбоцкага раёна забароненымі прыладамі рыбалоўства, броднікам, затрыманы жыхары г. Мінска грамадзянін Н. і яго сваяк жыхар Брэсцкай вобласці грамадзянін К., пенсіянер, Затрыманыя грамадзяне паводзілі сябе вельмі дзёрзка, нягледзечы на тое, што на возеры адпачывала шмат грамадзян, яны навідавоку ва ўсіх нахабна лавілі рыбу, лічачы сябе гаспадарамі жыцця, бо прыехалі госці на двух аўтамабілях БМВ Х5, а значыць - «мне» ўсё можна. Але інспектары міжрайінспекцыі так не лічылі і склалі на парушальнікаў адміністрацыйныя пратаколы. Прылады рыбалоўства, і незаконна здабытая рыба, і ракі канфіскаваныя да разгляду ў судзе. Трэці госць, які знаходзіўся разам з парушальнікамі, жыхар г. Гродна грамадзянін П., увесь час умешваўся ў дзеянні інспектараў: абражаў, выказваўся нецэнзурнай лаянкай. Прыйшлося выклікаць нарад РАУС, а за абразы службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў у Глыбоцкі РАУС накіравана заява пра прыцягненне грамадзяніна да адміністрацыйнай адказнасці. Здзіўляе абыякавасць і страх мясцовых жыхароў перад прыезджымі браканьерамі: ніводны з вялікай колькасці людзей, на вачах якіх усё адбывалася, не пагадзіўся даць тлумачэнні афіцыйна, толькі шэптам і без запісу. Можа людзі лічаць, што так і павінна быць, калі ў мяне «крутая тачка», то я магу рабіць усё, што пажадаю.

Ужо неаднаразова пісалася пра возера Доўгае, дзе ўвесь час затрымоўваюць грамадзяне, якія займаюцца незаконным падводным паляваннем. Так, 23 чэрвеня каля 16 гадзін затрыманы жыхар в. Мнюта Глыбоцкага раёна, які здабываў рыбу з дапамогай падводнай стрэльбы, паспеў здабыць адну асобіну шчупака, і быў затрыманы інспектарамі. Парушальніка чакае разбіральніцтва ў судзе.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-28670 «кругласутачна», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Вынікі нагляднай дзейнасці ДПН Глыбоцкага РАНС

## Узровень пажарнай бяспекі правераных аб'ектаў

У чэрвені 2013 года інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях завершаны праверкі 6-і аб'ектаў: Глыбоцкага вытворчага ўчастку ААТ «Плешчаніцлес» (інжынер-тэхнолаг Вершалоўскі Е.Ф.); аддзялення ААТ «Белаграпрамбанк» у г. Глыбокае (кіраўнік аддзяленнем Буднік Д.Н.); Установы «Рэдакцыя раённай газеты» «Веснік Глыбоччыны» (галоўны рэдактар Капшуль А.Н.); адкрытага акцыянернага таварыства «Канстанцінаў Двор» (дырэктар Клімаў В.В.), даччынага камунальнага ўнітарнага будаўнічага прадпрыемства «Глыбоцкая СПМК-26» (дырэктар Казлоўскі В.В.), прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «Маркет Прадукт» (дырэктар Канцадалаў С.А.).

Пасля правядзення планавай праверкі Глыбоцкага вытворчага ўчастку **ААТ «Плешчаніцлес»**, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 129-б кіраўніком прадпрыемства вызначаны асобы, адказныя за пажарную бяспеку, а таксама ўсталяваны супрацьпажарны рэжым на тэрыторыі прадпрыемства, аднак сістэма папярэджання пажараў на Глыбоцкім вытворчым участку знаходзіцца не на належным узроўні, а менавіта:

- *не арганізавана вывучэнне работнікамі нормаў і правілаў пажарнай бяспекі на вытворчасці ў рамках праведзення навучання па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму;*
- *электраабсталяванне ў шэрагу памяшканняў не адпавядае патрабаванням.*

Па выніках планавай праверкі аддзялення **ААТ «Белаграпрамбанк»** у г. Глыбокае выяўлена, што арганізацыйна-тэхнічныя мерапрыемствы, накіраваныя на забеспячэнне пажарнай бяспекі, не выконваюцца ў поўным аб'ёме:

- *пад маршамі лесвічных клетак у склепе, на 1-м паверсе будынка аддзялення ААТ «Белаграпрамбанк» уладкованы дапаможныя памяшканні;*
- *дзверы запасных эвакуацыйных выйсцяў зачынены на замак;*
- *дзверы ў адміністрацыйным будынку, якія аддзяляюць лесвічныя клеткі ад калідора, не абсталяваны прыладамі для самазакрыцця, адсутнічаюць ушчыльненні ў створках;*
- *сігнал пра спрацоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі ў будынку аддзялення ААТ «Белаграпрамбанк» не выведзены на пункт дыспетчарызацыі пажарнай аўтаматыкі МНС.*

Дадзеныя парушэнні змяншаюць узровень забеспячэння пажарнай бяспекі.

Загадам прадпрыемства створаны пажарна-тэхнічная камісія, добраахвотная дружына. Маецца загад пра прызначэнне адказных за забеспячэнне пажарнай бяспекі.

Навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана ў поўным аб'ёме: пройдзена навучанне па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму, на тэрыторыі не дапушчаецца курэнне, у кожным памяшканні вывешаны на бачных месцах інструкцыі пра меры пажарнай бяспекі, з усімі работнікамі праведзены інструктажы пра меры пажарнай бяспекі.

Пры правядзенні планавай праверкі Установы «Рэдакцыя раённай газеты» **«Веснік Глыбоччыны»** выяўлены шэраг парушэнняў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі.

Памяшканні рэдакцыі не абсталяваны ўстаноўкамі пажарнай аўтаматыкі, што ў сваю чаргу перашкаджае хуткаму выяўленню пажару. Таксама будынак рэдакцыі не абсталяваны маланкаабаронай і ў ім не праведзена вогнеабаронная апрацоўка будаўнічых канструкцый паддашкавага памяшкання. Шляхі эвакуацыі ў будынку не пазначаны прадпісвальнымі знакамі ў адпаведнасці са СТБ 1392-2003, на шляхах эвакуацыі прысутнічае гаручае аздабленне сцен, а таксама знаходзіцца дывановае пакрыццё, не прымацаванае цвёрда да падлогі, што можа перашкаджаць хуткай эвакуацыі людзей з будынка пры пажары.

Першаснымі сродкамі пажаратушэння будынак рэдакцыі ўкамплектаваны ў поўным аб'ёме, з усімі работнікамі праведзены інструктаж па правілах пажарнай бяспекі, у кожным памяшканні распрацаваны і вывешаны інструкцыі па пажарнай бяспецы, побач тэлефонаў вывешаны таблічкі з нумарамі выкліку аварыйна-ратавальных падраздзяленняў.

У рэдакцыі маецца загад пра прызначэнне адказнай службовай асобы за пажарную бяспеку, створана добраахвотная пажарная дружына.

Апошняя планавая праверка **ААТ «Канстанцінаў Двор»** праводзілася ў перыяд з 28.02.2012 года па 10.04.2012 года, да ўхілення парушэнняў нормаў і правілаў пажарнай бяспекі прапаноўвалася 30 мерапрыемстваў. Падчас правядзення планавай праверкі ў 2013 годзе было ўсталявана, што з прапанаваных раней 30 мерапрыемстваў выканана 4 (13%) мерапрыемствы.

Кіраўніцтвам суб'екта не вылучаецца неабходнае фінансаванне на прывядзенне аб'ектаў у належны супрацьпажарны стан.

- *Першаснымі сродкамі пажаратушэння аб'екты таварыства ўкамплектаваны не ў поўным аб'ёме;*
- *не ўсе водакрыніцы, прызначаныя для мэт тушэння пажараў, размешчаныя на тэрыторыі прадпрыемства, абсталяваны пад'язнымі дарогамі і пляцоўкамі для ўстаноўкі пажарных аўтамабіляў;*
- *на аб'ектах жывёлагадоўлі адсутнічае групавая прывязь, не абсталяваны месцы для курэння.*

Не выконваюцца патрабаванні нормаў пажарнай бяспекі Рэспублікі Беларусь НПБ 15-2007 «Вобласць ужывання аўтаматычных сістэм пажарнай сігналізацыі і ўстановак пажаратушэння» ў частцы абсталявання будынкаў сродкамі пажарнай аўтаматыкі.

Аб'екты прадпрыемства не абсталяваныя маланкаабаронай.

Не прымаюцца меры па правядзенні электраабсталявання ў спраўны стан (электраправодка, электраабсталяванне эксплуатуецца з парушэннямі ПУЭ).

На тэрыторыі прадпрыемства не вывешаны знакі, якія забараняюць курэнне і карыстанне адкрытым агнём.

На тэрыторыі прадпрыемства не выконваецца супрацьпажарны рэжым – дапушчаецца курэнне па-за адмысловa адведзенымі месцамі.

Навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме: журналы інструктажоў вядуцца з парушэннем (у журнале інструктажоў адсутнічаюць подпісы асобаў, з якімі быў праведзены інструктаж), не ў кожным памяшканні вывешаны на бачных месцах інструкцыі пра меры пажарнай бяспекі.

Пры правядзенні праверкі **ДКУСП «Глыбоцкая СПМК-26»** выяўлена, што:

- *будынкі і памяшканні прадпрыемства не абсталяваны ўстаноўкамі пажарнай аўтаматыкі, што ў сваю чаргу перашкаджае хуткаму выяўленню пажару;*
- *першаснымі сродкамі пажаратушэння аб'екты прадпрыемства ўкамплектаваныя не ў поўным аб'ёме;*
- *у цэху дапаможнай вытворчасці і на будпляцоўцы маюцца парушэнні прылады і эксплуатацыі электраабсталявання;*
- *навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме: на тэрыторыі прадпрыемства дапушчаецца курэнне ў неўсталяваных месцах, не ў кожным памяшканні вывешаны на бачных месцах інструкцыі пра меры пажарнай бяспекі.*

На прадпрыемстве маецца загад пра прызначэнне адказных службовых асобаў за пажарную бяспеку, створаныя пажарна-тэхнічная камісія і добраахвотная пажарная дружына.

Пры правядзенні планавай праверкі **ПГУП «Маркет Прадукт»** усталявана, што на балансе прадпрыемства маецца дзве крамы – «Люкс» і «Садовае кальцо», склад, цэх па перапрацоўцы драўніны, размешчаныя ў г. Глыбокае. Пры правядзенні праверкі выяўлена, што сігнал пра спрацоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі будынка крамы «Люкс» не выведзены на пункт дыспетчарызацыі пажарнай аўтаматыкі МНС. Аўтаматычная пажарная сігналізацыя склада знаходзіцца ў няспраўным стане. Не праведзены электрафізічныя вымярэнні электраабсталявання аб'ектаў. Не арганізаваны кантроль за станам першасных сродкаў пажаратушэння (вогнетушыцелі, размешчаныя ў цаху перапрацоўкі драўніны не перазараджаныя, скрыня для пяску не запоўнены пяском). У крамах адсутнічаюць індывідуальныя сродкі абароны органаў дыхання. Дадзеныя парушэнні змяншаюць узровень забеспячэння пажарнай бяспекі.

**Па выніках праведзеных праверак вызначаныя тэрміны ўхілення парушэнняў, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя кіраўнікі правераных суб'ектаў гаспадарання.**

***Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС.***

## МНС інфармуе

**на 25.06.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 559;
Гібель людзей – 74, з іх 1 дзіця;
Урон – 2626,66 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 30;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 302.4 млн. руб.

# Белстат: У 70% хатніх гаспадарак кіруюць жанчыны

## Яшчэ восем гадоў таму прапорцыя была 54%-46%.

**Белстат падлічыў долю хатніх гаспадак, у якіх кіруюць мужчыны і жанчыны. Пад хатняй гаспадаркай разумеецца група асобаў, якія разам жывуць, харчуюцца, маюць хоць трохі агульны бюджэт. Фактычна — сям'я.**

Яшчэ ў 2005 годзе 54% хатнімі гаспадаркамі кіравалі жанчыны. Адпаведна, на кіраўнікоў-мужчын заставалася 46% гаспадарак. За наступныя восем гадоў прапорцыя істотна змянілася.

Цяпер жанчыны кіруюць у 70% гаспадарак. А мужкі — менш чым у трэціне.

У сельскіх сем'ях дагэтуль захоўваецца амаль поўны парытэт — 50,5/49,5 — на карысць жанчын.

Прычым вясковых мужыкоў-гаспадароў больш на Брэстчыне (64%) і Гродзеншчыне (59%).

На Віцебшчыне — усяго 38%.

Адпаведна, у гарадах жанчын-кіраўнікоў істотна больш. Гэта дасягаецца ў тым ліку і за кошт таго, што ў гарадах жыве шмат удоваў. Фактычна яны з'яўляюцца кіраўнікамі хатніх гаспадарак па змоўчанні.



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 1 ліпеня



**06.00**, **07.15**, **08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **00.40** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.00** Военная драма **«Свои»** (Россия).
**12.10** «Золотой патефон». Пародийное шоу (Россия).
**13.20** Журналистское расследование.
**13.45** Тайны следствия.
**14.15** Вокруг планеты.
**15.15**, **18.40** Новости региона.
**15.25** Док.сериал «Азбука хорошего самочувствия» (Австралия).
**16.00** «Все путем!».
**16.25** Док.цикл «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Бедные родственники звезд».
**17.20** Телефильмы АТН «Символ Победы».
**19.20** Специальный репортаж АТН.
**19.40**, **00.20** Зона Х. Криминальные новости.
**19.55** **«Земский доктор. Продолжение»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Торжественное собрание и праздничный концерт
**23.25** Военный детектив **«Апостол»** (Россия).
**00.55** День спорта.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Закрытая школа».**
**12.10** Премьера. **«Женский доктор 2».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!»
**14.05** «Модный приговор».
**15.00** «Шальные деньги».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Георгий Жуков. От рекорда до парада».
**18.50** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Лист ожидания».**
**22.15** **«Тюдоры».**
**00.25** «Вечерний Ургант»
**01.10-01.40** Ночные новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Снайпер. Оружие возмездия»** (Беларусь-Россия). 1-я серия.
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Док.сериал «Будь в тонусе» (Австралия).
**11.20** **«Не может быть!»** (СССР).
**13.15** Теннис. Уимблдон. Обзор.
**14.25** Под грифом «Известные».
**15.00** **«Репетитор»** («Беларусьфильм»).
**16.50** Белорусское времечко.
**17.55** **«Снайпер. Оружие возмездия»** (Беларусь-Россия). 1-я серия.
**18.55** **«Государственная граница»**. Фильм пятый **«Год сорок первый»** («Беларусьфильм»). 1-я серия.
**20.25** «1812. От Немана до Немана». Видеофильм
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Трагикомедия **«Внук космонавта»**
**23.10** Док.сериал «Будь в тонусе» (Австралия).
**23.45** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.40** «Большой завтрак».
**10.20** «Смотреть всем!».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** **«Слово женщине»**
**12.30** «Джейми: обед за 30 минут».
**13.00** «Репортерские истории».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** СТВ представляет: «Звездный ринг». Новый сезон. Горки против Бобруйска.
**15.45** «Другая страна». «Южная Корея: путь тигра».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «По закону».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** ПРЕМЬЕРА. «Обманутые наукой».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Наше кино»: **«МАСАКРА».** Беларусь, 2010г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Наше кино»: **«В ИЮНЕ 41-го».**



**7:00** Размовы эксперта
**7:15** Побач з намі
**7:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**7:45** Без рэтушы: «Свае і чужынцы», рэпартаж, рэж. Уладзімір Міхарскі, 2009 г.,
**8:05** «Таямніцы Ватыкану» , дак. серыял: 4 серыя
**8:35** «Паўднёвыя Курылы. Выспы забытых»
**9:30** «Прафесія "кат"»
**10:30** Еўропа сёння
**11:00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **«Чарцюк з сёмага класу»**: 5 серыя
**17:50** Моўнік
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** **«Час гонару»**: 41 серыя
**18:50** Еўропа сёння
**19:20** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, 2012 г., Беларусь
**19:50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра»
**20:05** Хто ёсць кім?: «Станіслаў Шушкевіч»
**20:20** Два на два
**20:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**22:00** Побач з намі
**22:15** Фільматэка майстроў: **«Рыса»**
**23:45** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэр»**: 9 серыя
**0:40** Размовы эксперта

